ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Кніга ноша

№ 21
жнівень, 2013

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Андрэй ФЕДАРЭНКА:
# «Люблю само слова – аповесць...»



**– Шаноўны Андрэй Міхайлавіч, больш за дзесяць гадоў Вы пішаце кароткія эсэ пад назвай «Сечка». Ці змяніўся за гэты час творчы падыход да іх напісання? І наогул – які жанр Ваш любімы?**

– Некалі цыкл кароткіх эсэ задумваўся як план рэалізаваць тое, што не магло ўвайсці ў мастацкія творы. Тады яшчэ не было ні мабільнікаў, ні інтэрнэту, ні фэйсбуку, ні, галоўнае, ЖЧ – «жывога часопіса». Калі ён, гэты электронны часопіс, з’явіўся, а разам з ім – мільёны, без перабольшання, «пісьменнікаў» са сваімі ўласнымі блогамі, я ўбачыў, што такую «сечку» можа напісаць кожны другі. І я без шкадавання спыніў усё на 15 раздзеле. Хаця, калі шчыра, у душы спадзяваўся, што кароткі жанр будзе выручаць мяне доўга. Але, як бачым, жыццё ламае ўсе планы, і што яно яшчэ прыдумае пісьменніку, застаецца толькі гадаць. Цяпер мяне цягне да старога, нямоднага жанру аповесці – «усечанага рамана» альбо «расцягнутага апавядання». Я люблю само слова – аповесць, люблю гэтую форму, яна дазваляе сказаць роўна столькі, на колькі хапае майго дыхання, з аднаго боку ўтрымлівае ад шматслоўнасці, з другога – не абмяжоўвае жорсткімі апавядальна-навельнымі рамкамі.

**– Вы адзін з нешматлікіх пісьменнікаў, што апісалі ў творах «ціхае паляванне», рыбалку. А як праводзіце вольны час, дзе адпачываеце душою, шукаеце сюжэты і бераце сілу для новых твораў?**

– У мяне ўсё шаблоннае, апрабаванае, старамоднае, у тым ліку і правядзенне вольнага часу. Той жа лес, грыбы, рэчка... Апошнім часам палюбіў проста без мэты хадзіць па гарадскіх вуліцах і глядзець вакол. Аказваецца, таксама цікава! А дзе знаходжу сюжэты? У звычайным дзіцячым альбоме для малявання. Бяру каляровыя алоўкі, пачынаю крэмзаць... Вось атрымалася постаць дзяўчыны... Ззаду – чырвоны дах доміка. Яшчэ далей – прыпынак трамвая. Каго яна чакае, гэтая дзяўчына? Хто павінен зараз пад’ехаць? Дзе яна жыве? У гэтым доміку? Ці наадварот, сама прыязджала да кагосьці сюды? Вось так адкажаш сам сабе на пытанні і

*(Працяг на стар. 7)*

### Даведка «Кніганошы»:

**Андрэй Федарэнка – празаік, драматург. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1995). Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы» (1989), «Смута» (1994), «Шчарбаты талер» (1999), «Афганская шкатулка» (2002), «Нічые» (2009), «Мяжа» (2011), «Ланцуг» (2012), «Сечка» (2012). Творы перакладаліся на англійскую, польскую, румынскую, рускую і іншыя мовы. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА



**Дубоўскі Валеры. На пачатку маўчання: кніга паэзіі. – Мінск: Юніпак, 2013. – 180 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 44).**

Гэтая кніга паэзіі ёсць чарговая спроба пранікнуцца сваёй чалавечай і агульнабеларускай самасцю, одумна яе распазнаць, спасцігнуць і, мажліва, здзейсніць.




**Емяльянаў-Шыловіч Алесь. Парасонечнасць: кніга паэзіі. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 68 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 45).**

Асноўная тэма кнігі вершаў Алеся Емяльянава – пошук. Пошук сябе і свайго месца ў свеце, пошук пяшчоты і цеплыні ў людзях, якія знаходзяцца побач.




**Анохін Кірыла. Асцярожна, дрэвы зачыняюцца: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 56 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Аўтар гэтай кнігі нешматслоўны – ён піша не толькі вершы, але і маўчанне, у якім яны гучаць. Кірыла Анохін ведае, чым і як трэба пацерці старое, пакрытае іржой слова, каб яно ажыло і само здзівілася свайму новаму існаванню. «Асцярожна, дрэвы зачыняюцца» – гэта хутчэй заклік да ўваходу, чым перасцярога, бо нават сезонныя змены надвор'я тут робяцца цудам, які варта перажыць разам з аўтарам.




**Суса Эва. Снежны чалавек. Пер. са швед. Алесі Башарымавай. – Мінск: Юніпак, 2013. – 26 с: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 1).**

Кажуць, Снежны чалавек жыве ў Гімалаях. Але ён можа жыць зусім побач у якой-небудзь пячоры. Хлопчыкі Макс і Уна каталіся на сноўбордзе і заблукалі. А затым сустрэлі... Гэтая кніга будзе цікавая аднолькава дзецям і дарослым – для вечаровага сямейнага прачытання. Стварылі яе Эва Суса – аўтар некалькіх шырока вядомых у Швецыі серыяў для дзяцей і падлеткаў, а таксама Бенжамэн Шо – адзін з самых папулярных ілюстратараў дзіцячых кніг у Францыі.

**Рагойша Вячаслаў. Вочы ў вочы, мыслі ў мыслі: кніга перакладной паэзіі. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 296 с.**




Кніга гэта – своеасаблівы падрахунак зробленага Вячаславам Рагойшам як перакладчыкам паэзіі. Яе склалі ўвасобленыя ім па-беларуску выбраныя вершаваныя творы найперш украінскіх аўтараў, сярод іх – знакамітая драма-феерыя Лесі Украінкі «Лясная песня». У асобны раздзел кнігі ўвайшлі творы паэтаў сербскіх, харвацкіх і баснійскіх (Д. Максімавіч, А. Б. Шыміч, В. Парун, Ё. Пупачыч, І. Сарайліч), славацкіх (П. Штыліха, Р. Чыжмарык, Л. Фелдэк, Ю. Зборaўян, Г. Гупка, М. Касандра), літоўскіх (М. Марцінайціс), грузінскіх (Ш. Нішніанідзэ) і казахскіх (С. Сяітаў). У кнізе таксама змешчана бібліяграфія перакладаў В. Рагойшы.




**Бэрзыньш Улдыс. Салаўі крычаць, я па-латышску… : паэзія; пераклад А. Гуцава, А. Разанава. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 124 с.**

Упершыню ў Беларусі асобным выданнем выходзіць кніга вершаў вядомага латышскага паэта Улдыса Бэрзыньша, прыкметнага сваёй па-сапраўднаму наватарскай паэтыкай. Па-беларуску вершы перастварылі Андрэй Гуцаў і Алесь Разанаў. Большасць прадстаўленых у гэтай кнізе твораў перакладзена са зборніка «Паэтызм беларус» (1984).




**Бадзілоўская Наталія. Цудоўныя прыгоды ліцвінскай прынцэсы ў Дацкім Каралеўстве = «Wonderful Adventures of Litvinian Princess in Danish Kingdom»; пер. на англійскую мову Анастасіі Дзятко. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 100 с.**

Гэтая казка распавядае пра Данію, казачную краіну Ганса Хрысціяна Андэрсэна, і пра цудоўныя прыгоды ў ёй цудоўнай ліцвінскай Прынцэсы. Героі ў казцы ёсць прыдуманыя і ёсць сапраўдныя. Гэты твор дзіўным чынам спалучае рэальнае з нерэальным. Казка адрасаваная чытачам усіх узростаў, усім, хто верыць у прыгожыя цуды, штодня іх чакае і сустракае.




**Чарадзей Усяслаў. Блог Усяслава Чарадзея: тэкст. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 256 с.**

Легендарны полацкі князь Усяслаў Чарадзей, будаўнік Сафійскага сабора і паводле старажытных летапісаў – уладальнік звышнатуральных здольнасцяў, на старонках свайго блога сучаснай мовай дзеліцца з чытачом тым, як гэта – быць у скуры ваўкапярэваратня і кіраваць сярэднявечным Полацкам.

ЖЖ-дзённіку Усяслаў давярае ўласнае жыццё, скардзіцца на недасканаласць і адсталасць сучаснага яму сярэднявечнага грамадства, дзеліцца любоўнымі перажываннямі і нават распавядае пра свае неймаверныя падарожжы ў часе.

Блог Усяслава Чарадзея ініцыяваны культурніцкай кампаніяй «Будзьма беларусамі!».

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Сурмач Ганна. Беларусь бязь межаў. – Мінск: Лімарыус, 2013. – 684 с.: іл.**

Гэтую кнігу немагчыма было б стварыць без сучасных сродкаў сувязі, без найноўшых тэхналогіяў. Ганна Сурмач, працуючы ў Беларускай рэдакцыі радыё «Свабода», здолела апытаць сотні беларусаў ды ўраджэнцаў Беларусі, якія жывуць сёньня ў многіх краінах, амаль на ўсіх кантынентах (Антарктыда – пакуль выключэнне), і частка гэтых інтэрв'ю друкуецца цяпер пад адной вокладкай. Людзі проста распавядаюць пра сваё жыццё... Розныя лёсы, розныя прычыны й розны шлях ад бацькоўскага парогу ў далёкі невядомы свет, але заўсёды – светлы ўспамін пра краіну свайго паходжання, роздум пра яе й жаданне ганарыцца сваёй Бацькаўшчынай.




**Кулікоў Ігар. Свамова: вершы. – Мінск: Медысонт, 2013. – 92 с.**

У новай кнізе Ігара Кулікова сабраныя вершы, напісаныя ў 2011–2013 гадах. Кніга таксама ўлучае два пераклады са старажытных моваў і слоўнік словаў, якія могуць падацца чытачу незразумелымі. «Свамова» – гэта не ўласная мова аўтара, а новае бачанне беларускай мовы, якое сягае сваімі каранямі ў інда-еўрапейскае мінулае і ідэалам якога з'яўляецца чысціня.




**Сямашка Віктар. Габілітацыя: Тры вершаваныя цыклы: «Габілітацыя», «Дафарэнцыя», «Гзымас». – Мінск: Галіяфы, 2013. – 96 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

У кнізе сабраныя ўсе вершы, створаныя паэтам у перыяд з кастрычніка 2006 г. да траўня 2008 г. Габілітацыя – назва беларускай вёскі, якая знаходзіцца ля Будслава. У перакладзе з лацінскае habitatio значыць «пражыванне, жытло». У прадстаўленых тэкстах аўтар апісвае рознабаковыя стасункі з рэчаіснасцю і робіць тое без лішніх фантазій, але з наданнем сакральнага зместу кожнай дэталі.




**Бэўвульф. Пер. са стараангельскай мовы Антона Францішка Брыля. – Мінск: Зміцер Колас, 2013. – 130 с.**

«Бэўвульф» – найбуйнейшы твор стараангельскай паэзіі, які дайшоў да нашых дзён. У складанай структуры паэмы знаходзіцца месца ці не ўсім важным тэмам літаратуры англасаксаў: апісанні звычайных і фантастычных бітваў умела пераплеценыя з урыўкамі элегічнымі і маралістычнымі, з пераказамі генеалогіяў, з адсылкамі да іншых германскіх легендаў і да біблейскіх эпізодаў.




**Бонды Эган. Запрашэнне на вячэру: выбранае; пер. з чэшск., уклад. і камент. Макса Шчура. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 524 с. – (Чэшская калекцыя).**

Выбранае чэшскага мысляра, паэта і празаіка Эгана Бонды (1930–2007) упершыню знаёміць беларускага чытача з галоўнымі кірункамі творчасці гэтага разнапланавага аўтара: прозай («Праца ў скляпенні»), эсэ («Першыя дзесяць гадоў»), драматургіяй («Запрашэнне на вячэру»), а таксама і перадусім – вершамі. Будучы праўдзівым адлюстраваннем неардынарнай і супярэчлівай асобы Бонды, ягоныя творы ўражваюць сваім нонканфармізмам, філасофскаю глыбінёй, чорным гумарам і нязменнай актуальнасцю ў кантэксце сучаснага свету.




**Санько Валер. Грэх на іх нязмыўны. Аповесць-уява. Смаленск, Ноопресс 2013. – 146 с.**

Пра жыццё і творчасць генія беларускай літаратуры Янкі Купалы напісана шмат, а пра смерць канкрэтна нічога. Аўтар з нечаканага боку зазірнуў за сцяну тайны гібелі першага народнага паэта. Адкуль, што, як уведалася аўтару – сакрэт пісьменніка. Аднак логіка яго доказаў сур'ёзная, праўдападобная. Прымусіць многіх задумацца. Чытача прыцягнуць глыбокія філасофскія разважанні, гістарычная дакументальная фактура, зачастую малавядомая. Дапамагаюць аўтару праўдзівіць, па-новаму ўзірацца ў тагачасныя падзеі на Беларусі не толькі адвага пісьменніка, а і празорная інтуіцыя доктара народнай медыцыны, шматгадовая рэдакцыйная і даследчыцкая праца.




**Маскоўская ўлада на Літве. 1863–1869: далейшы працяг «Чорнай кнігі» аўтара «Аповесці пра Гаражану»; пер. з пол. В. Хурсіка. – Мінск: Выд. В. Хурсік, 2013. – 416 с.**

Аўтар – непасрэдны ўдзельнік паўстання 1863 года, афіцэр паўстанцкага атрада, а пазней ссыльны Ф. Чапліцкі (1828–1886) у арыгінале кнігі 1869 г. не пазначаны. Выкладзеныя факты катаванняў і здзекаў, якія цярпелі жыхары на тэрыторыі былога ВКЛ ад расійскай адміністрацыі ў час і пасля падаўлення паўстання на працягу 1863–1869 гг. Падрабязна разгледжаны механізм вайсковага, цывільнага і рэлігійнага прымусу. Прысвячаецца 150-годдзю паўстання 1863 г.




**Дзеравянка Аляксандр. Шчыток. Вайна: акупацыя вачамі дзіцяці. – Мінск: Выд. В. Хурсік, 2012. – 96с.**

Вайна не ў маштабах краіны, а ў адной асобнай вёсцы. Уражанні дзіцяці ад дзеянняў партызанаў і фашыстаў у час Другой сусветнай вайны ў вёсцы Шчыток Круглянскага раёна, аўтарская ацэнка вынікаў гэтых дзеянняў.

# «Парасонечнае» надвор'е ў клубе «Графіці»

У першы дзень ліпеня ў паб-клубе «Графіці» адбылася прэзентацыя зборніка вершаў Алеся Емяльянава-Шыловіча «Парасонечнасць». Гэта яго першая кніга. Выйшла яна ў серыі «Кнігарня пісьменніка» ГА Саюз беларускіх пісьменнікаў у выдавецтве «Кнігазбор».

Да кнігі прыкладаецца кружэлка з песнямі.

Пра свой першы зборнік Алесь Емяльянаў-Шыловіч сказаў наступнае:

«Тэма кнігі – гэта пошук, таму што я яшчэ шукаю сябе, шукаю форму, хістаюся ад верлібра да рыфмаванага верша і наадварот.

Мне спадабалася, што кніжка выйшла хутка, без якіх-небудзь накладак, гэта кажа пра якасць працы выдавецтва, таму, калі хто надумаецца выдаваць кнігу, я ўсім раю – да спадара Генадзя» (Г. Вінярскага, выдавецтва «Кнігазбор» – заўв. СБП).

Цягам вечарыны на сцэну «Графіці» выходзілі сябры і калегі аўтара, чыталі свае і яго вершы, спявалі песні, казалі цёплыя словы.

Спіс выступоўцаў атрымаўся немалы: Гурт «аРБа», бард Алесь Камоцкі, сябры суполкі «Літаратурнае прадмесце», Адам Шостак, Юрась Нераток, Мікола Кандратаў, а таксама кіраўнік суполкі пісьменніца Людміла Рублеўская, паэты Віктар Жыбуль, Антон Рудак, Марына Варабей, Зміцер Вішнёў, Серж Мінскевіч, Алесь Чубат, кіраўнік літаратурнай суполкі «Літо-Беларусь» паэт Георгі Барташ.




Бард Алесь Камоцкі прыйшоў на імпрэзу з падарункам, сваім зборнікам песняў «Час», які ўручыў маладзейшаму калегу.

Людміла Рублеўская пра аўтара «Парасонечнасці» сказала наступнае: «Канечне, хацелася б, як кіраўніку суполкі, гэтак жа, як Георгію Барташу, да якога Алесь хадзіў напачатку, сказаць, што ён на нашых вачах вырас. Але паверце, калі мы з ім пазнаёміліся, ён быў такі самы, таго самага росту. Але ён творча вырас, што нас вельмі радуе. Тут казалі, што кніжак можа быць шмат. Алесь, я вельмі табе жадаю, каб іх было шмат, але першая кніжка можа быць у жыцці толькі адна, як першая шлюбная ноч. Гэта не паўтараецца, таму Алесь, напоўніцу пражыві гэты момант».










Спадарыня Людміла таксама расказала гісторыю верша «Парасонечнасць», якім адкрываецца кніга. Менавіта дома ў Людмілы Рублеўскай і Віктара Шніпа іх знаёмец Алесь Емяльянаў некалі забыў свой парасон.

**Парасонечнасць**
*Л. Рублеўскай*

парасон
пакінуты гаспадаром
у вітальні чужой кватэры
падчас святочнае вечарыны
жадае быць скарыстаным
належным чынам
раскрывацца ад дотыкаў дажджу
і ўбіраць празрысты атрамант
якім піша вершы
непаслухмяны вецер
а потым сядзець на падлозе
выпраўляць памылкі
дапушчаныя нябачным аўтарам
рабіць найнатуральнейшую рэдактуру

Георгі Барташ адзначыў: «Я ни разу не встречался с таким стремительным развитием поэтическим. Это удивительное качество, потому что, как правило, поэты формируются в подростковом, юношеском возрасте. Они находят свой язык, свой тон, свою стилистику, и прекрасно на этом острове себя чувствуют. А Алесь очень изменялся за эти годы. Он учился всему и у всех. Не заимствовал, а именно учился, поэтому я не только желаю ему счастливого литературного будущего, но я, в общем-то, верю, что именно таким оно и будет».

**Алена Казлова**




**Трусаў Алег. Невядомая нам краіна. Беларусь у яе этнаграфічных межах = Trusaŭ Alieh. The Country We Don't Know. Belarus in its Ethnic Borders. Пераклад на англійскую мову Наталлі Лабанавай, Кэрал Раўз. Выданне 2-е, выпраўленае і дапоўненае. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 288 с.**

Кніга распавядае пра дзяржаўныя ўтварэнні беларускага народа, якія ў афіцыйнай (беларускай і замежнай) гістарыяграфіі не прынята лічыць беларускімі, а менавіта пра Цвярское і Смаленскае княствы, Пскоўскую рэспубліку, Дзвінскі край, Надбужскую краіну ды іншыя землі, якімі валодаў беларускі народ.




**Нетбаева Тацццяна. Чалавек і гісторыя ў беларускіх мясцовых хроніках XVII–XVIII стст. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 280 с.**

У кнізе на матэрыяле беларускіх мясцовых хронік XVII–XVIII стст. асвятляюцца розныя сферы жыцця тагачаснага месціча, а таксама даследуюцца спосабы адлюстравання гэтага жыцця ў гісторыка-мастацкіх тэкстах. Манаграфія будзе карысная філолагам, гісторыкам і ўсім, хто цікавіцца беларускай мінуўшчынай.




**Чаропка Вітаўт. Напалеон Орда: Выдатны беларускі музыка і мастак. – Мінск: «Харвест», 2013. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Напалеон Орда (1807–1883) – знакаміты беларускі піяніст, кампазітар і мастак. Пасля задушэння паўстання 1830–1831 гг. жыў у Парыжы, быў там дырэктарам Італьянскай оперы. Яго музычныя творы, асабліва паланэзы, вылучаюцца маштабнасцю і віртуозным стылем. Пасля вяртання на радзіму шмат падарожнічаў па Беларусі, Літве, Украіне, рабіў замалёўкі мясцінаў, звязаных з жыццём вядомых людзей. Гэтыя малюнкі маюць вялікую каштоўнасць для айчыннай гісторыі. Н. Орда належыць да тых дзеячоў, якія пазначаны ў спісе самых выдатных нацыянальных творцаў.




**Шумская Ірына. Мечыслаў Карловіч: Забыты беларускі геній. – Мінск: «Харвест», 2013. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Мечыслаў Карловіч (1876–1909) – беларускі скрыпач, дырыжор, кампазітар, публіцыст, фатограф. Быў адным з тых, хто здолеў ўзнесці традыцыі ўсходнеславянскага меласу на агульнаеўрапейскі ўзровень. Шэраг створаных ім музычных твораў абапіраўся на беларускія народныя мелодыі. Сярод іх – знакамітая сімфонія пад назвай «Літоўская рапсодыя» (1906 г.).




**Деды: дайджест публикаций о беларуской истории. Выпуск 12. Составление, научное редактирование А. Е. Тараса. – Минск: Харвест, 2013. – 272 с.**

Матэрыялы дванаццатага выпуска дайджэста падзеленыя на чатыры тэматычныя раздзелы. Яны прысвечаны разнастайным пытанням гісторыі ВКЛ, Рэчы Паспалітай, БНР і БССР. Усяго ў выпуску 16 матэрыялаў, 110 ілюстрацыяў, 2 карты.




**Деружинский Вадим. Мифы о Беларуси. – Минск: «Харвест», 2013. – 336 с.: илл. – (Неизвестная история).**

Беларусы – адзіны ў свеце народ, уяўленні якіх пра саміх сябе поўныя міфаў і памылак, часам вельмі дзіўных і нават недарэчных. Якую сферу жыцця ні вазьмі, усюды гэтыя міфы. Парадокс у тым, што да іх усе прывыклі, іх амаль ніхто не заўважае, не ўсведамляе. У кнізе разглядаюцца найбольш распаўсюджаныя міфы пра беларусаў і Беларусь.




**Матвейчык Дзмітрый. Паўстанне 1863–1864 гадоў у Беларусі: нарыс баявых дзеянняў. – Мінск: Медысонт, 2013. – 122 с.: іл.**

Кніга прысвечана асвятленню гісторыі паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі. У навукова-папулярнай форме апісваюцца прычыны і перадумовы пачатку паўстання на землях былой Рэчы Паспалітай і, у прыватнасці, у Беларусі, фарміраванне і склад паўстанцкіх арганізацыяў, баявыя дзеянні паўстанцкіх атрадаў, мерапрыемствы расійскіх уладаў па падаўленні паўстання і рэпрэсіі супраць яго ўдзельнікаў.




**Снайдэр Тымаці. Крывавыя землі. Еўропа паміж Гітлерам і Сталіным; пер. з англ. мовы С. Петрыкевіча; навук. рэд. Г. Сагановіч і Ул. Калаткоў. – Мінск: Медысонт, 2013. – 640 с. – (Бібліятэка часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд»).**

Кніга раскрывае вялікую панараму злачынстваў, учыненых нацысцкім і савецкім рэжымамі на «крывавых землях» – у Беларусі, Польшчы, Прыбалтыцы і Украіне, дзе з 1933 да 1945 г. было загублена 14 млн. чалавек. На падставе шырокага корпусу дакументальных сведчанняў і спецыяльнай літаратуры аўтар даследуе матывы і метады дзеянняў абодвух дыктатараў, вызначае колькасць іх ахвяраў і ставіць нямала складаных пытанняў. Кніга прымушае па-новаму паглядзець на два трагічныя дзесяцігоддзі гісторыі Еўропы.




**Кісялёў Г. В. Смак Беларушчыны; уклад.: Л. Г. Кісялёва; прадм.: У. А. Арлоў. – Мінск: Лімарыус, 2013. – 498 с.**

У выданне ўвайшлі два зборнікі артыкулаў вядомага літаратуразнаўцы і гісторыка Генадзя Кісялёва (1931–2008). Першы з іх – «Радаводнае дрэва» – выйшаў у 1994 г. і стаўся знакавай кнігай для шанавальнікаў беларускай мінуўшчыны. Другі зборнік – «Смак Беларушчыны» – быў складзены Г. Кісялёвым на пачатку 2000-х гг. і дагэтуль не друкаваўся. Тут сабраныя артыкулы, большасць з якіх публікаваліся ў 1990-я гг. у перыёдыцы і пазней былі істотна пашыраныя і дапрацаваныя даследчыкам.




**Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей: зборнік памяці Віталя Скалабана; уклад. А. Сідарэвіч, А. Фядута, М. Шумейка. – Мінск: Лімарыус, 2013. – 500 с.**

Кнігаю «Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей» ушаноўваецца памяць беларускага гісторыка, археографа і архівіста Віталя Скалабана (1947–2011). Аўтары зборніка дзеляцца ўспамінамі пра Віталя Уладзіміравіча, паказваюць чытачам яго ўклад у развіццё гістарычнай навукі Беларусі, знаёмяць з творчай спадчынай даследчыка. У кнізе надрукаваны таксама арыгінальныя працы гісторыкаў з Беларусі, Польшчы, Расіі ды Украіны, якія датычаць у асноўным гісторыі Беларусі XIX–XX стст. У навуковы ўжытак уводзіцца шэраг дакументаў, выяўленых у беларускіх і замежных архівах, музеях ды бібліятэках, якія дапамагаюць чытачам глыбей спасцігнуць некаторыя з'явы і працэсы, што назіраліся ў гісторыі нашай Айчыны, бліжэй пазнаёміцца з асобамі, якія адыгралі пэўную ролю ў палітычным і культурным жыцці нашай краіны.




**«Ня бойцеся ахвяраў і пакут!» = «Do not be afraid of sacrifices and sufferings!»: дакумэнты і матэрыялы пра дзейнасць мядзельска-смаргонскага антыкамуністычнага падзем'я (1948–1950 гг.); укладальнік Міхась Чарняўскі. – Мінск: А. М. Вараксін, 2013. – 154 с. – (Серыя «Такая гісторыя»).**

Дадзеная кніга распавядае пра адну з найяскравейшых старонак пасляваеннага антыкамуністычнага супраціву ў Беларусі, раскрывае гераічную постаць кіраўніка падзем'я Расціслава Лапіцкага ды яго паплечнікаў. Даследаванне грунтуецца на ўспамінах ўдзельнікаў і сведкаў тых падзеяў, а таксама выпісках з судовых справаў.

Укладальнік кнігі, Міхась Міхайлавіч Чарняўскі (1938–2013), паспеў унесці ўсе неабходныя праўкі ў першае выданне, якое пабачыла свет сем гадоў таму. Гэтая кніга з'ўляецца бліскучым прыкладам таго, якіх вынікаў можна дасягнуць ва ўмовах недаступнасці архіваў, што ёсць пэўным запаветам нашага выбітнага археолага і гісторыка маладым даследчыкам.




**Дубавец Сяргей. Errata: як што называецца, так і адбываецца. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 134 с. – (Бібліятэка «Беларускі калегіюм»).**

Аўтар разглядае абсурдныя павароты беларускага лёсу, якія кожны раз пачынаюцца з падмены словаў. Варта, напрыклад, вайсковую падрыхтоўку назваць ваеннай, як гэтая вузкаспецыяльная справа, датычная выключна армейскага кантынгенту, ператвараецца ва ўсенародную падрыхтоўку да вайны, якая тычыцца кожнага і ўсіх. Падмена назваў і сэнсаў – скразная тэма кнігі.




**Пацюпа Юр. Анонс: квадрат тэкстаў. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 158 с. – (Бібліятэка «Беларускі калегіюм»).**

Квадрат тэкстаў – гэта чатыры кірункі намеркаваных даследаванняў: раскрыццё індывідуальных праектаў філасофіі мовы, выяўленне феномену як альтэрнатывы норме і узусу, шуканне рэлевантных канвенцыяў у правапісе, граматыцы і лексіцы, стварэнне нацыянальнай граматычнай традыцыі. Аўтар прытрымліваецца фундаменталісцкай стратэгіі развіцця мовы, распачатай Янам Станкевічам, станавіта адмяжоўваючыся і ад кансерватараў сумнеўных савецкіх нормаў, і ад бяздумных апалагетаў узусу, і ад валюнтарысцкіх рэфарматараў мовы. Захоўваць, усталёўваць і развіваць асновы, на якіх трымалася беларуская мова стагоддзямі, – найважнейшыя заданні аўтара кнігі.




**Белы Алесь. Хроніка Белай Русі. Імагалогія Беларусі XII–XVIII ст. – 2-е выданне, папраўленае і дапоўненае. – Смаленск: Інбелкульт, 2013. – 468 с.**

«Хроніка Белай Русі» – істотна перапрацаванае і дапоўненае перавыданне манаграфіі гэтага ж аўтара, выдадзенай у 2000 г. і прысвечанай гісторыі ўзнікнення хароніма «Белая Русь» ды яго паступовага дастасавання да тэрыторыі сённяшняй Рэспублікі Беларусь. У 2001 г. першае выданне кнігі было ўганаравана заснаванай Беларускім ПЭН-цэнтрам прэміяй імя Францішка Багушэвіча. У кнізе на падставе аналізу вялікай колькасці тэкставых і картаграфічных крыніцаў прасочваецца эвалюцыя паняцця «Белая Русь» у сістэмах геаграфічных ведаў розных эпох і народаў Еўропы. Акрамя таго, у новае выданне ўключаныя артыкулы і нарысы аўтара па гісторыі картаграфавання тэрыторыі Беларусі і яе адлюстравання ў заходнееўрапейскай іканаграфіі. Гэтыя матэрыялы дапаўняюць асноўную частку кнігі, ствараючы маштабную карціну эвалюцыі вобраза краіны ў XII–XVIII, разгледжанай скрозь прызму імагалогіі – новай сінтэтычнай гістарычнай дысцыпліны.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т. Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89

# Слонім ад А да Я

**Чыгрын Сяргей. Слонімскі буквар: даведнік па горадзе Слоніме і раёне. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 64 с.**

Буквар – найважнейшая кніга ў жыцці кожнага чалавека, кніга, з якой ён вучыцца чытаць і адкрывае для сябе чароўную краіну ведаў. А вось знаёміцца з гісторыяй слонімскай зямлі варта пачынаць з кнігі, якую напісаў вядомы краязнаўца Сяргей Чыгрын, – «Слонімскі буквар: даведнік па горадзе Слоніме і раёне». У выданні ў алфавітным парадку размешчаныя артыкулы пра гісторыю гэтага краю, пра яго людзей, пра помнікі і тыя падзеі, што на працягу некалькіх стагоддзяў адбываліся на Слонімшчыне. У іх распавядаецца пра маёнтак Альбярцін і яго ўласнікаў род Пуслоўскіх, гісторыю мястэчка Жыровічы і Жыровіцкае Евангелле, пра знакамітага археолага, краязнаўцу, філосафа, вынаходніка і заснавальніка Слонімскага раённага краязнаўчага музея Язэпа Стаброўскага, пра Услонім (старажытная назва Слоніма), слонімскія друкарні і багатыя слонімскія кірмашы, а таксама пра Льва Сапегу, Міхала Казіміра Агінскага і славутага земляка, спартсмена Івана Ціхана і шмат іншых звестак. Кожны артыкул багата ілюстраваны старымі і сучаснымі здымкамі. Кніга напісаная цікава і займальна, чытаецца з захапленнем, а гістарычныя факты лёгка запамінаюцца. А для тых, хто захоча даведацца больш, у канцы кнігі змешчаны спіс літаратуры пра Слонімшчыну.




Кніга будзе карыснай усім, хто захапляецца краязнаўствам і цікавіцца гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны, але найперш школьнікам і іх бацькам, настаўнікам і турыстам.

**А.С.**

# ...Як смакаванне добрага дарагога віна

**Кандратаў Мікола. Кроплі дажджу: паэзія. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 98 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 37).**

Калі ў анатацыі да кнігі «Кроплі дажджу» пазначаецца, што аўтар працягвае «сумна-лірычнае пераасэнсаванне свету», то з гэтай думкай не хочацца пагаджацца. Бо вершы Міколы Кандратава – аўтара, які напоўніцу раскрыў свой талент ужо ў досыць сталым узросце, наведваючы суполку «Літаратурнае прадмесце», – насамрэч пакідаюць уражанне станоўчае і сонечнае. Як і сам паэт, творчая манера якога сваёй далікатнасцю і чуйнасцю да навакольнага свету нагадвае пісьмо філалагічнага пакалення. Вершы сучасныя і адначасова класічныя. Яны – нібыта спадкаемцы твораў Максіма Багдановіча. Экспрэсіянізм у XXI стагоддзі? Магчыма. І гэта прываблівае.

Прываблівае чытача і тэматычная разнастайнасць – ад старажытных вераванняў і філасофіі да прысвячэнняў паплечнікам, калегам і сучаснікам Наталлі Кучмель, Уладзіміру Някляеву, Святлане Длатоўскай, Алесю Квяткоўскаму, Аксане Спрынчан і іншым. Паэтычныя формы таксама розныя – ад санета да верлібра. Праўда, больш гарманічным да аўтара ёсць класічнае вершаванне. Выдатна, калі чытанне паэзіі прыносіць такую ж асалоду, як смакаванне добрага дарагога віна. Новая кніга Міколы Кандратава «Кроплі дажджу» – прыклад паспяховага аднаўлення класічнай манеры ў нашым часе.




**Прэс-служба СБП**

# «Люблю само слова – аповесць...»

(Пачатак на стар. 1)

са здзіўленнем бачыш, што два абзацы ўжо гатовыя, пачынае ствараецца новы свет, новы твор.

**– У «Сечцы-9» Вы пішаце: «…Праца рэдактара ўсё больш ператвараецца ў працу псіхолага, у пэўных выпадках – псіхатэрапеўта. Але гэта было б паўбяды. Усё часцей рэдактару даводзіцца выконваць ролю ідэолага (зампаліта, палітрука), калі на першае месца ў ацэнцы твора ставіцца не мастацкая вартасць, а «партыйная прыналежнасць» аўтара». Вы доўгі час працуеце рэдактарам у розных выданнях. А як Вы самі ацэньваеце мастацкую вартасць твора, якім крытэрыям ён павінен адпавядаць?**

– Крытэрыі простыя: у кожным творы з першых словаў праяўляецца аўтар. Не героі, не сітуацыя, не час, не сюжэт, а менавіта чалавек-аўтар са сваім унутраным светам. І з першых двух сказаў становіцца зразумелым, дзеля чаго ён піша, што ён любіць, ці многа ён любіць, ці дастаткова начытаны ён, – адпаведна, ці варта чытаць яго далей. Так што пытанне павінна ставіцца так: не «ацэнка мастацкіх вартасцяў твора», а ацэнка чалавека, які гэты твор напісаў. «Што ты за чалавек? Што новага, такога, чаго я, чытач, яшчэ не ведаю, ты мне можаш сказаць?

**– І яшчэ: як Вы лічыце, ці павінен рэдактар мастацкай літаратуры быць пісьменнікам?**

– Абавязкова. Прычым не проста пісьменнікам, а вельмі добрым пісьменнікам, Майстрам, Класікам, Настаўнікам. Толькі такому можна верыць, прымаць яго заўвагі, вучыцца ў яго.

**– Набліжаецца Ваш значны юбілей. Што з жыццёвых і творчых задумаў удалося рэалізаваць і якія планы на будучыню?**

– У сваіх ледзь не школьных запісах я нядаўна натыкнуўся на «жыццёвыя планы»: да 50 гадоў напісаць дзве кнігі для падлеткаў, тры для дарослых, кнігу кінасцэнарыяў, кнігу п'ес, кнігу эсэ... Як ні дзіўна, усё рэалізавалася. Каб ведаў – загадаў бы больш. Напрыклад, атрымаць Нобелеўскую прэмію. Можа, збылося б? Цяпер ніякіх планаў не будую зусім, а проста стараюся радавацца кожнаму новаму дню, ці, лепш сказаць, кожнаму вечару. У гэтым узросце вечары чамусьці пачынаюць падабацца больш, чым раніцы.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Анатоль Івашчанка. Хай так. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 124 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 43).**

У другую кнігу Анатоля Івашчанкі ўвайшлі вершы, што складаліся цягам сямі апошніх гадоў. Халаднаватая метафізічнасць і адстаронeнасць, характэрныя вершам першага зборніка паэта, саступаюць месца пачуццёвасці, лірызму, а часам – і звароту да вострай сацыяльнай праблематыкі. Паэт запрашае выправіцца ў захапляльнае падарожжа: ад самоты – да свабоды.




**Усевалад Сцебурака. Бег па самаадчуванні. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 39).**

У новую кнігу Усевалада Сцебуракі ўвайшлі вершы і празаічныя зацемкі, напісаныя цягам апошніх гадоў. На гэтых 96-ці старонках можна знайсці гарадскія («Здарова, мой горад!») і вясковыя («Восень – бурштын і мёд») пейзажы, філасофскую («Давай падлічым pro et contra») і сацыяльную («Змітру Дашкевічу да 31-га дня народзінаў») лірыку, не кажучы ўжо пра вечную тэму кахання або кароткія рыфмаваныя гісторыі з жыцця гараджаніна. І нават аповед пра «пакаленне last» замест пасляслоўя. І выслоўі-«гемаркі» кшталту: «Паміраючы, упэўніцеся, што вашае жыццё скончанае». Тут ёсць калі не ўсё, то многае, што дапаможа болей дазнацца пра Усевалада Сцебураку – як пра асобу і як пра паэта.




**Віктар Марціновіч. Сфагнум: раман. Пераклад Віталя Рыжкова. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 320 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 42).**

Віктар Марціновіч – адзін з самых паспяховых і, мажліва, самых спрэчных беларускіх аўтараў, і выхад ягонай чарговай кнігі стаецца новым эксперыментам і адметным прэцэдэнтам у айчыннай выдавецкай прасторы. «Сфагнум» адначасова з'явіўся на рускай мове, мове арыгіналу, на сайце 34mag.net, дзе размешчаны ў вольным доступе. Аўтар прызнаецца, што спрабуе ў новым рамане ў лёгкай форме гаварыць пра складанае і глыбіннае. Ці ўдалося пісьменніку за «гангстэрскай камедыяй» схаваць раскрыццё важнай для беларусаў сацыяльнай і нацыянальнай праблематыкі? Маем мы справу з «лёгкім чытвом» альбо з вытанчанай стылізацыяй пад масавую культуру, з гульнёй у папулярны кантэкст? Адказаць на гэтыя пытанні можна, толькі непасрэдна пазнаёміўшыся з кнігай.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 21
жнівень, 2013
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 21, 24.08.2013.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com